# Голас Радзімы

№ 16 (2054) 21 красавіка 1988 г. ⊙ ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ (БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА») ⊙ Выдаецца з 1955 г. Цана 4 кап.





Калі мы бачым непаўторны краявід, як на гэтым здымку, любуемся жывапісным заходам сонца, чуем звонкае цурчанне крыштальнай крыніцы, так хочацца верыць, што ўсё гэта будзе вечна. Узаемаадносіны чалавека і прыроды, іх узаемадзеянне сталі тэмай размовы, што адбылася на спецыяльным пасяджэнні ў зале Акадэміі навук рэспублікі. Больш падрабязна пра падзею паведамляецца ў матэрыяле «Давайце разам вырошчваць наш сад», які змешчаны на 3-й стар.

Фота С. КРЫЦКАГА.

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

## ПАДПІСАННЕ ПАГАДНЕННЯ ПА АФГАНІСТАНУ

14 красавіка ў Палацы нацый у Жэневе ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося падпісанне жэнеўскіх дакументаў па палітычнаму ўрэгуляванню становішча вакол Афганістана.

У іх лік уваходзяць двухбаковае пагадненне паміж Рэспублікай Афганістан і Ісламскай Рэспублікай Пакістан аб прынцыпах узаемаадносін, і ў прыватнасці аб неўмяшанні і аб адмове ад інтэрвенцыі; дэкларацыя аб міжнародных гарантыях; двухбаковае пагадненне паміж Рэспублікай Афганістан і Ісламскай Рэспублікай Пакістан аб добраахвотным вяртанні бежанцаў; пагадненне аб узаемасувязі для ўрэгулявання становішча, якое адносіцца да Афганістана.

У прысутнасці генеральнага сакратара ААН Х. Перэса дэ Куэльяра і яго асабістага прадстаўніка Д. Кардавеса член Палітбюро ЦК НДПА, міністр замежных спраў Рэспублікі Афганістан А. Вакіль і дзяржаўны міністр замежных спраў Ісламскай Рэспублікі Пакістан З. Нурані падпісалі пагадненне аб прынцыпах узаемаадносін, і ў прыватнасці аб неўмяшанні і аб адмове ад інтэрвенцыі, а таксама пагадненне аб добраахвотным вяртанні бежанцаў і пагадненне аб узаемасувязі для ўрэгулявання становішча, якое адносіцца да Афганістана.

Член Палітбюро ЦК КПСС, міністр замежных спраў Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік Э. Шэварднадзе і дзяржаўны сакратар Злучаных Штатаў Амерыкі Дж. Шульц падпісалі дэкларацыю аб міжнародных гарантыях і пагадненне аб узаемасувязі для ўрэгулявання становішча, якое адносіцца да Афганістана.

На прэс-канферэнцыі ў пастаянным прадстаўніцтве СССР у Жэневе міністр замежных спраў СССР Э. Шэварднадзе падкрэсліў, што цяперашні вынік прадвызначыў абвешчаны Генеральным сакратаром ЦК КПСС М. С. Гарбачовым курс нашай краіны на вырашэнне вострых міжнародных праблем выключна сродкамі палітыкі. «Афганскі вузел» паддаецца развязцы з дапамогай самага дзейснага ў наш час інструмента, які мы называем новым палітычным мысленнем. Э. Шэварднадзе адзначыў, што Савецкі Саюз належным чынам ацэньвае згоду Злучаных Штатаў Амерыкі стаць разам з ім гарантам жэнеўскіх дагавораў. Міністр зазначыў, што жэнеўскія пагадненні — пробны камень шчырасці намераў у адносінах да Афганістана. Той, хто сапраўды жадае міру афганскаму народу, хто шчыра імкнецца памагчы яму залечваць раны, падтрымае гэтыя пагадненні.

На заканчэнне свайго выступлення савецкі кіраўнік сказаў: сёння ў Жэневе пачаўся новы адлік часу. Ён пачаўся не толькі для Афганістана і Пакістана. Жэнеўскія пагадненні аднадушна падтрыманы савецкім народам, і мы падпісалі іх, маючы на руках яго мандат.

Але наш уклад ва ўрэгуляванне гэтым не вычарпаны. З думкамі пра гэта мы вяртаемся на Радзіму.

КОНКУРС ПОЛЬСКАЙ ПЕСНІ



**У Мінскім палацы культуры і спорту чыгуначнікаў у пачатку красавіка праходзіў рэспубліканскі конкурс выканаўцаў польскай песні. Трыццаць пяць самадзейных салістаў, эстрадных і фальклорных калектываў, якія сталі лепшымі ў раённых і абласных аглядах, змагаліся за права прадстаўляць Беларусь на Першым усесаюзным конкурсе выканаўцаў польскай песні, які адбудзецца летам у Віцебску. Журы назвала пераможцаў — спевакоў з Гомеля, Магілёва і Віцебска. А ў Віцебску кіпіць работа па стварэнню самай вялікай у краіне канцэртнай пляцоўкі пад адкрытым небам на 6 тысяч гледачоў. Яе макет вы і бачыце на нашым здымку.**

УМАЦАВАННЕ ДАВЕР'Я

## БЕЛАРУСЬ — МІНЕСОТА

У рэспубліцы была з дружалюбным візітам дэлегацыя актывістаў амерыканскай грамадскай арганізацыі «Фрэндшып форс» з Мінесоты. Яна знаходзілася ў Беларусі па запрашэнню Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі.

Госці пазнаёміліся з гераічнай гісторыяй беларускага народа, убачылі штодзённае жыццё рабочых і калгаснікаў, дзеячаў навукі і мастацтва, якія прымалі іх у сваіх дамах. Яны дзяліліся радасцямі і трывогамі, надзеямі і праблемамі, блізкімі ўсім простым людзям Амерыкі і Савецкага Саюза.

Новы партнёр Беларускага таварыства дружбы — арганізацыя «Фрэндшып форс» узнікла ў 1977 годзе. Яна мае свае аддзяленні ў кожным з пяцідзесяці штатаў ЗША і філіялы ў многіх краінах свету. Гэта няўрадавая грамадская арганізацыя ставіць на мэце наладжванне непасрэдных дружалюбных кантактаў паміж грамадзянамі розных дзяржаў і стварэнне «свету сяброў» у імя ўмацавання бяспекі і давер'я паміж народамі.

Па дагаворанасці, дасягнутай паміж «Фрэндшып форс» і Беларускім таварыствам дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, дэлегацыя актывістаў таварыства наведае Мінесоту з візітам у адказ у сярэдзіне мая. У далейшым такі абмен стане рэгулярным.

ВІЗІТЫ

## ПАЕЗДКА САВЕЦКІХ ПАРЛАМЕНТАРЫЯЎ

Па краінах Персідскага заліва зрабіла паездку спецыяльная місія Вярхоўнага Савета СССР. Яе ўзначальваў намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР, Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Г. Таразевіч. Савецкія парламентарыі наведалі Аб'яднаныя Арабскія Эміраты, султанат Аман і Кувейт, дзе былі прыняты кіраўнікамі дзяржаў, правялі перагаворы з афіцыяльнымі асобамі. У час сустрэч і гутарак выказвалася трывога і заклапочанасць у сувязі з ірана-іракскай вайной, закраналася блізкаўсходняя праблема і палесцінскае пытанне.

Кіраўнікі і афіцыяльныя асобы ААЭ, Амана і Кувейта з адабрэннем выказаліся аб савецкіх мірных ініцыятывах, накіраваных на дасягненне ўсеагульнай бяспекі.

АГУЛЬНЫ СХОД АН БССР

## ШЛЯХАМ ПЕРАБУДОВЫ

Сесія гадавога агульнага сходу Акадэміі навук рэспублікі адбылася ў Мінску. Уступным словам яе адкрыў прэзідэнт АН БССР акадэмік У. Платонаў.

З дакладамі аб асноўных выніках навуковай дзейнасці акадэміі выступілі віцэ-прэзідэнты АН БССР акадэмікі АН БССР А. Сцепаненка, І. Ліштван, У. Салдатаў, І. Навуменка. Вынікі навукова-арганізацыйнай работы прэзідыума акадэміі за 1987 год падведзены ў дакладзе галоўнага вучонага сакратара Прэзідыума АН БССР акадэміка АН БССР А. Ганчарэнкі.

Удзельнікі сходу аналізавалі ход перабудовы ў акадэміі, намецілі канкрэтныя шляхі яе паглыблення. Адзначалася выключная важнасць развіцця фундаментальных навуковых даследаванняў, якія павінны стварыць надзейную аснову для вырашэння канкрэтных праблем народнай гаспадаркі.

На сходзе выступіў першы сакратар ЦК КПБ Я. Сакалоў.

ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

## ПРЫСВЕЧАНА ЗНАМЯНАЛЬНЫМ ДАТАМ

Знамянальным датам у гісторыі адносін дзвюх брацкіх краін—43-й гадавіне падпісання Дагавора аб дружбе, супрацоўніцтве і ўзаемнай дапамозе паміж СССР і Польскай Народнай Рэспублікай, а таксама першай гадавіне дэкларацыі аб савецка-польскім супрацоўніцтве ў галіне ідэалогіі, навукі і культуры была прысвечана прэс-канферэнцыя, якая адбылася 12 красавіка ў генеральным консульстве ПНР у Мінску.

Выступаючы перад прадстаўнікамі сродкаў масавай інфармацыі, генеральны консул ПНР у Мінску М. Абядзінські падкрэсліў велізарнае значэнне дагавора, падпісанага пераможнай вясной 1945 года паплечнікамі па сумеснай барацьбе з гітлераўскім фашызмам. Новы імпульс пастаяннаму развіццю сувязей дзвюх сацыялістычных краін дала дэкларацыя, падпісаная 21 красавіка мінулага года М. С. Гарбачовым і В. Ярузельскім у Маскве. Яна прадугледжвае сумесны пошук вырашэння праблем, якія ўзнікаюць, лепшае выкарыстанне магчымасцей сацыялізму, актыўны абмен вопытам.

Консул па консульскіх справах Б. Ломпесь расказаў аб рэалізацыі праграмы культурнага абмену паміж ПНР і БССР, новых ініцыятывах грамадскасці Польшчы і Беларусі ў галіне гуманітарных кантактаў.

Аб далейшым умацаванні эканамічных сувязей польскіх і беларускіх працоўных калектываў гаварыў консул па гандлёвых справах С. Апала.

ПРЫЁМ ДЭЛЕГАЦЫІ

## ПАЗІЦЫЯ ЦАРКВЫ

Статс-сакратар па пытаннях царквы пры Савеце Міністраў ГДР К. Гізі прыняў мітрапаліта Мінскага і Беларускага Філарэта, які знаходзіўся ў Берліне ў саставе дэлегацыі рускай праваслаўнай царквы.

Мітрапаліт Філарэт расказаў аб разнастайных мерапрыемствах рускай праваслаўнай царквы з выпадку 1000-годдзя хрышчэння Русі, аб яе міратворчых намаганнях. Праваслаўныя хрысціяне Савецкага Саюза, падкрэсліў ён, ускладаюць вялікія спадзяванні і надзеі на маючую адбыцца савецка-амерыканскую сустрэчу на вышэйшым узроўні ў Маскве.

К. Гізі даў высокую ацэнку дзейнасці рускай праваслаўнай царквы, накіраванай на забеспячэнне міру і справядлівасці.

Адбылася сустрэча дэлегацыі з членамі прэзідыума ХДС. У ходзе сустрэчы старшыня ХДС Г. Гецінг і мітрапаліт Філарэт расцанілі савецка-амерыканскі Дагавор аб ліквідацыі ракет сярэдняй і меншай дальнасці як падзею, што паклала пачатак павароту ад канфрантацыі да разрадкі. Гэты дагавор, а таксама вывад ракет сярэдняй і меншай дальнасці з тэрыторыі ГДР і ЧССР, падкрэслілі яны, служаць натхняючымі крокамі па шляху да раззбраення і з'яўляюцца бачным выражэннем паслядоўнай волі сацыялістычных краін да міру.

АХОВА ПРЫРОДЫ



**Упершыню ў рэспубліцы пачата ажыццяўленне комплекснай праграмы па вывучэнню і кантролю прыроднага асяроддзя на аб'ектах садова-паркавага і архітэктурна-ландшафтнага мастацтва, якія ўяўляюць найбольшую гістарычную і культурную каштоўнасць. У Мірскім парку, Сувораўскім — у Кобрыне, імя Луначарскага — у Гомелі, на Замкавай гары ў Гродне і ў іншых месцах плануецца абследаванне атмасфернага паветра, глебавага покрыва і раслiннасці на ўтрыманне забруджваючых рэчываў.**

**Даныя, атрыманыя ў ходзе даследаванняў спецыялістамі Беларускага рэспубліканскага Упраўлення па гідраметэаралогіі і кантролю прыроднага асяроддзя, дазволяць не толькі выявіць прычыны забруджвання паркавай зоны, але — і гэта галоўнае — намеціць дзейсныя меры па нармалізацыі і аздараўленню экалагічнага становішча ў іх.**

**НА ЗДЫМКУ:** *аналіз проб атмасфернага паветра, якія былі ўзяты на тэрыторыі Мірскага замка, праводзіць тэхнік лабараторыі фізіка-хімічных метадаў аналізу Ларыса* **ВАЙТОВІЧ.**

СУПРАЦОЎНІЦТВА

## НАВОШТА ВЫНАХОДЗІЦЬ ВЕЛАСІПЕД?

Насуперак вядомай прымаўцы, мінскія мотавелазаводцы і спецыялісты польскай фірмы «Ромет» вырашылі вынайсці веласіпед — стварыць арыгінальную канструкцыю, якая не мае аналагаў.

Для гэтага і арганізавалі сумеснае канструктарскае бюро па распрацоўцы перспектыўных, канкурэнтаздольных на міжнародным рынку двухколавых педальных машын. А гэтымі днямі падпісана пагадненне аб выпуску яшчэ больш складаных прадукцыі — першай партыі (пяць тысяч) матацыклаў маркі «Мінск-Ромет». Новая мадэль будзе збірацца ў Мінску, а польскія майстры бяруцца за выпуск запчастак да яе, продаж, арганізацыю гарантыйнага і сервіснага абслугоўвання.

Цяпер калегі намячаюць перспектывы стварэння сумеснага прадпрыемства. Хутка па дарогах Еўропы пабягуць элегантныя, эканамічныя, надзейныя і танныя матацыклы з назвамі, якія напісаны на беларускай і польскай мовах.

ТЭХНІЧНАЯ ТВОРЧАСЦЬ ШКОЛЬНІКАЎ

## ЗА ТРЫ МОРЫ

«Вожык» (так называецца арыгінальная радыёкіруемая мадэль, выробленая ўмельцамі Баранавіцкай станцыі юных тэхнікаў) зрабіў доўгі шлях, каб удзельнічаць у міжнароднай выстаўцы тэхнічнай творчасці школьнікаў, якая праводзіцца ў Індыі.

Поспех баранавіцкіх мадэлістаў не выпадковы. На станцыі юных тэхнікаў сёння працуе больш за 40 гурткоў, якія аб'ядноўваюць 640 хлопчыкаў і дзяўчынак. Найбольшай папулярнасцю карыстаюцца радыё- і тэлемеханічныя гурткі. Работы іх выхаванцаў не раз удастойваліся ўзнагарод на абласных і рэспубліканскіх аглядах, экспанаваліся на ВДНГ СССР. Для многіх школьнікаў станцыя стала першай ступенню ў свет вялікай тэхнікі.

*У ЦЭНТРЫ ЎВАГІ—ЭКАЛОГІЯ*

# «ДАВАЙЦЕ РАЗАМ ВЫРОШЧВАЦЬ НАШ САД»

Вальтэраўскія словы, што вынесены ў загаловак гэтых нататак, успомніў у сваім выступленні на расшыраным пасяджэнні праблемнага навуковага савета пры Дзяржаграпроме БССР і Акадэміі навук рэспублікі, якое адбылося 7-8 красавіка ў Мінску, прэзідэнт АН БССР, акадэмік У. Платонаў. У іх — своеасаблівы заклік яднацца. Яднацца перад пагрозай значнай і рэальнай. Яднацца, каб, пакуль яшчэ магчыма, адвесці бяду і гарантаваць прыродзе роднага краю бяспеку і здароўе. Вельмі многае залежыць тут ад працаўнікоў сельскай гаспадаркі, ад іх адносін да зямлі, рэк, азёраў, лясоў і лугоў. Мы прывыклі да сцвярджэння, што чалавек, які працуе на зямлі, не можа не любіць яе, не клапаціцца пра сваю карміцельку. Але чаму ж апошнім часам устрывожана грамадская думка, адкуль такая вялікая занепакоенасць пра будучыню нашага агульнага багацця — навакольнага асяроддзя? Значыць, не ўсё робіцца пакуль так, як трэба, не ўсе людзі ў сваіх рашэннях і ўчынках добрасумленныя і кампетэнтныя, ашчадныя і клапатлівыя, калі іх справы тычацца прыроды, карыстання яе дарамі. Праблемы гэтыя паўстаюць з кожным годам усё вастрэй і вастрэй, бо ўсё больш у сельскай гаспадарцы ўжываюцца інтэнсіўныя метады гаспадарання, якія ўключаюць меліярацыю, хімізацыю, тэхнагеннае ўздзеянне на зямлю. І альтэрнатывы інтэнсіфікацыі няма. Акадэмік С. Скарапанаў прывёў наступныя лічбы. У БССР рост урадлівасці глебы за апошнюю чвэрць стагоддзя роўны аналагічнаму павышэнню на Захадзе за 80-90 год. Аб тым, як ураўнаважыць эканоміку і экалогію, і ішла гаворка на вышэйназваным пасяджэнні, якое, хутчэй, можна назваць агульным саветам, дзе раіліся, як гаспадарыць далей. Сярод яго ўдзельнікаў — вучоных, спецыялістаў сельскай, лясной гаспадаркі, пісьменнікаў і журналістаў — не было людзей раўнадушных ці наўмысна зламысных. Спрэчкі вяліся гарачыя, бесстаронпія. Кожны адстойваў уласную пазіцыю шчыра і нават самааддана, хаця для кагосьці яна здавалася і памылковай, нават шкоднай.

Прычын жа для трывогі сёння, на жаль, дастаткова. Ужо даўно выклікае заклапочанасць стан беларускага Палесся. Меліярацыя часта дзейнічае ў гэтых краях не як ашчадны гаспадар, якому жыць тут і жыць, а як бяздумны арандатар, для якога важна сёння атрымаць больш, а заўтра, хоць патоп. Удзельнікі пасяджэння прыводзілі лічбы і факты, якія красамоўна сведчаць: так працаваць больш нельга. Мінералізуюцца тарфяныя глебы, страчваюць арганічнае рэчыва. Зніжаецца ўзровень грунтавых вод, высыхаюць невялікія рэкі і азёры. Сумарны водны баланс за год на Палессі пакуль станоўчы. Але як будзе далей? Узараны прыбярэжныя палосы, і з гэтых палёў пестыцыды і ўгнаенні змываюцца адразу ў ваду. Старыя людзі помняць: раней з ракі можна было і напіцца. Хіба сёння нашаму сучасніку прыйдзе ў галаву такая думка?

Асабліва вострую палеміку выклікала схема абвалавання Прыпяці і меліярацыі яе поймы. У выніку ўсе пагадзіліся: павышаць урадлівасць, добраўпарадкаванне палескіх земляў трэба. Але нельга забывацца, што ў складаным слове «добраўпарадкаванне» першая частка ўтворана ад «добра». Таму запаведзь «не пашкодзь!» — не павінна забыцца.

А ў Чырвонай кнізе Беларусі, куды заносяцца расліны і жывыя істоты, якім пагражае знікненне, з'яўляюцца ўсё новыя і новыя радкі.

Таму ў ходзе дыскусій пытанне аб выратаванні (ужо выратаванні!) Палесся ставілася вельмі грунтоўна. У пасяджэнні прымалі ўдзел адказныя работнікі, вядомыя вучоныя, людзі, ад якіх залежыць, як будуць развівацца падзеі далей. І як пэўная альтэрнатыва дню ўчарашняму прагучалі словы віцэ-прэзідэнта АН БССР І. Ліштвана: «Для захавання тыповых і унікальных прыродных комплексаў у Палескай нізіне ствараюцца новыя заказнікі і запаведнікі, ахоўныя зоны па берагах рэк, азёраў і вадасховішчаў, прыродаахоўныя аб'екты на тарфяных радовішчах. З меліярацыйнага фонду выключаюцца балоты верхавога тыпу, якія маюць водарэгулюючае значэнне. Агульную плошчу ахоўваемых аб'ектаў у рэгіёне намечана павялічыць у тры разы».

Яшчэ адна болевая кропка ўзаемаадносін сельскай гаспадаркі і экалогіі — хімізацыя. Дырэктар Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства і аграхіміі, кандыдат сельскагаспадарчых навук І. Багдзевіч сказаў: «У апошнія гады пачалі прыметна праяўляцца негатыўныя з'явы: забруджванне вадаёмаў нітратамі і ядахімікатамі, зніжэнне якасці раслінная прадукцыі, асабліва бульбы, кармавых караняплодаў і агародніны».

На пасяджэнні прагучалі настойлівыя патрабаванні палепшыць самі мінеральныя ўгнаенні, сачыць за тым, як яны выкарыстоўваюцца, захоўваюцца. А калі ў якой-небудзь гаспадарцы не будзе пабудавана адпаведнае сховішча, то наогул не выдзяляць ёй сродкаў хімізацыі. Прызнана неабходным зніжаць выкарыстанне пестыцыдаў. Удзельнікі нагадалі і тое, што Беларусь, якая першай укараніла біялагічныя метады аховы раслін, па тэмпах іх асваення адстала ад сваіх прыбалтыйскіх суседзяў.

Вялікую ўвагу выклікала выступленне Віктара Казлова, старшыні нядаўна створанага Дзяржаўнага камітэта БССР па ахове прыроды. Гэтай установе нададзены зараз вялікія правы. Грамадскасць, уся рэспубліка чакаюць ад яе эфектыўных і рашучых дзеянняў. В. Казлоў паведаміў, што ўжо створана схема экалагічнай абароны Мінска, распрацоўваецца аналагічная сістэма для Пінска і Горак. У перспектыве—Магілёў, Гродна, Светлагорск, Бабруйск. Забаронена апрацоўка пасеваў пестыцыдамі з паветра, калі яны разносяцца на вялікія адлегласці. Гэта можна рабіць толькі наземным спосабам. Упершыню ў краіне ствараецца мадэль аднаўлення «забытых» рэчак.

Так, безумоўна, вышэйзгаданае — толькі «штрыхі да партрэта». Але мы верым, што яны, гэтыя асобныя кропкі, стануць адпраўнымі. І дарагое ўсім нам аблічча роднай Беларусі ніколі не згубіць сваёй непаўторнасці, і ніколі не паблякнуць фарбы на велічным палатне, што створана прыродай.

**Г. БРАТКО.**

*ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ*

## НАВАСЕЛЛІ Ў ІЖЫ

1988 год у калгасе «Рассвет» Вілейскага раёна нездарма называюць годам вялікіх наваселляў. Нядаўна ў Іжы, цэнтральнай сядзібе гаспадаркі, здадзены ў эксплуатацыю новы корпус бальніцы. У ім размясціліся фізіятэрапеўтычныя кабінеты і стацыянар на 35 ложкаў. Усе палаты добра абсталяваны, калгас за свае сродкі набыў для бальніцы тэлевізары. Зараз цікава і самабытна афармляецца ўезд у бальніцу, а сам будынак вясковыя ўмельцы аздабляюць адмысловымі налічнікамі.

Некалькі тыдняў назад у Іжы адбылося яшчэ адно наваселле: адкрыўся спартыўны комплекс, які пабудаваны сіламі самой гаспадаркі.

І раней для заняткаў спортам мелася зала ў мясцовай школе, хакейная «каробка». Але прайшоў час, і цяпер такая спартыўная база ўжо не задавальняе моладзь. Тады пачалося будаўніцтва новага спартыўнага цэнтра. Зараз ён адкрыты для ўсіх жадаючых. У рабочыя дні па вечарах, а ў выхадныя і зранку тут збіраецца моладзь. Многіх вабіць зала лёгкай атлетыкі. Для заняткаў ёсць усё неабходнае: штангі, гіры, трэнажоры для трэніровак атлетаў і весляроў. Прыгожа аздоблена зала — люстэркі на сценах, з густам падабраныя шторы надаюць ёй надзвычай прыгожы выгляд. Більярдная зала таксама прыцягвае наведвальнікаў.

Пейзажамі роднай Іжаншчыны, якія выканаў мастак Вячаслаў Апарын, з густам оўмлена зала настольнага эніса. Гульня можа адбывацца аднachасова на трох тэнісных сталах.

Апарын — не толькі мастак, а і майстар спорту па стральбе з лука. Ён сумеў зацікавіць гэтым маладых вяскоўцаў. Зараз пры школе працуе секцыя лучнікаў, ён і кіруе ёю.

З сапраўды «алімпійскім» прыцэлам пабудаваны пнеўматычны цір, які дапамог афарміць былы выпускнік Іжскай школы мастак Валерый Місюль. Для аматараў ціхіх гульняў — шахматна-шашачны клуб. Спартыўны комплекс у Іжы — не толькі цэнтр фізкультурнай работы. Усё, на чым спыняецца тут вока, цікава аформлена, служыць выхаванню эстэтычных густаў. У прасторным і ўтульным фае размешчана выстаўка карцін. Над яго афармленнем таксама папрацаваў В. Місюль. Для гэтага ён выкарыстаў чаканку і разьбу па дрэву.

У калгасе пабудавана новая танцпляцоўка, у маладзёжным кафэ створана дыскатэка.

Зараз пачынаецца будаўніцтва вялікага тэніснага корта, пляцовак для гарадкоў і бадмінтона, плавальнага басейна, створэнне зоны адпачынку. Сацыяльна-культурная база для вяскоўцаў пашыраецца.

**Наталля ВАЛЫНЕЦ.**

## САМАДЗЕЙНЫ СКУЛЬПТАР

Гэты экспанат нядаўна заняў ганаровае месца ў Шумілінскім музеі народнай славы. Скульптуру «Дзеля жыцця на зямлі» падарыў землякам ветэран вайны і працы П. Смалякоў.

Цікавае і багатае жыццё Пятра Усцінавіча. Трыццаць гадоў вадзіў ён паязды. А ў вольны час браўся за разец. У Віцебскім дэпо ўстаноўлены скульптурныя партрэты У. І. Леніна і М. І. Калініна, выкананыя машыністам. Бюст легендарнага партызанскага камандзіра Канстанціна Заслонава падарыў аршанскім чыгуначнікам. Партрэт актыўнага ўдзельніка рэвалюцыі 1905 года машыніста А. Ухтомскага самадзейны скульптар стварыў для музея маскоўскіх чыгуначнікаў.

Асобая тэма творчасці П. Смалякова — мінулая вайна. Ён удзельнічаў у бітвах пад Сталінградам і Курскам, штурмаваў Берлін. У ліку гвардзейцаў з дванаццацю дзяржаўнымі ўзнагародамі на грудзях прайшоў па Краснай плошчы на парадзе Перамогі ў 1945 годзе.







**У Мінску адкрыты першы і пакуль адзіны ў нашай краіне камерцыйны цэнтр у сістэме Дзяржаўнага забеспячэння. Навошта?..**

**Выпуск прадукцыі кожным прадпрыемствам нашай краіны рэгламентаваны, натуральна, планам. Ён уключае ў сябе дзяржаўныя заказы, дагаворы паміж вытворцам і спажыўцом. Але кожнае прадпрыемства ў той жа час зацікаўлена выпусціць прадукцыі як мага больш. Ад гэтага працоўны калектыў атрымлівае пэўны прыбытак. Аднак тут і ўзнікалі праблемы: каму рэалізаваць звышпланавыя вырабы, дзе знайсці спажыўца! Для такіх лішкаў, а таксама для зэканомленых матэрыялаў патрэбны былі вялікія складскія плошчы. І тады для вырашэння гэтых няпростых праблем быў створаны Рэспубліканскі камерцыйны цэнтр.**

**Толькі ў пачатку лютага пачала працаваць служба, а паслугамі цэнтра ўжо карыстаюцца каля дваццаці эканамічных рэгіёнаў краіны.**

**НА ЗДЫМКАХ: спецыялісты аддзела пракату прыбораў А. ПАТАПЧЫК (злева) і М. МІХАЙЛОЎСКІ дастаўляюць у пункт пракату прыборы, якія бралі ў часовае карыстанне супрацоўнікі Інстытута электронікі АН БССР; кіраўнік групы зводу інфармацыі М. ПЯТРОВІЧ, старшыя інжынеры Л. БУХТАЯРАВА і Р. УХОРЦАВА ў вылічальным цэнтры; начальнік цэнтра П. СЫЦЬКО.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

# БССР: ШЛЯХІ СТАНАЎЛЕННЯ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

# АЛЬТЭРНАТЫВА

**(Заканчэнне. Пачатак у № 15).**

У гэтую сямёрку ўваходзілі рэдактар газеты «Беларусь» І. Лёсік, старшыня Беларускага нацыянальнага камітэта ў Мінску К. Цярэшчанка, рэктар духоўнай семінарыі, лідэр хрысціянска-сацыяльнай партыі Абрантовіч, а таксама А. Смоліч, І. Серада, С. Рак-Міхайлоўскі, А. Уласаў.

У сваёй большасці дэлегаты былі членамі Найвышэйшай рады, прадстаўнікамі хрысціянска-дэмакратычнай, сацыял-дэмакратычнай партый і паланафільскай фракцыі партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў.

Плёнам перагавораў з'явіліся «Прапановы сумеснай канферэнцыі прадстаўнікоў Беларусі і прадстаўнікоў Польскага ўрада» (адбылася ў Мінску 20—24 сакавіка 1920 года), якія мелі два пункты. «Прадстаўнікі Беларусі» заяўлялі, што яны падтрымліваюць патрабаванні Польшчы да Расіі аб неўмяшанні ў справы зямель, размешчаных на захад ад граніц 1772 года. (Праходзілі на ўсход ад Невеля, Віцебска, Оршы, Чавус, Прапойска, Гомеля). Прадстаўнікі другога боку бралі на сябе абавязацельства дабіцца ад польскіх грамадзянскіх і ваенных улад выканання некаторых тэрміновых «беларускіх патрабаванняў» у адміністрацыйнай, школьнай і эканамічнай галінах.

У Праграме патрабаванняў, выказаных у «Мемарыяле па беларускаму пытанню», яе аўтары зыходзілі з неабходнасці прызнання беларускай дзяржавы ў саюзе з Польшчай на правах аўтаноміі. «Беларускі бок» прапаноўваў стварыць у Вільні літоўска-беларускі ўрад, заснаваць генеральны камісарыят па беларускіх справах пры польскім урадзе, паслаць дэлегацыю Беларусі на мірную канферэнцыю ў Парыжы, склікаць беларускі з'езд. Усё гэта было адхілена. Польскі бок самым рашучым чынам адхіляў прапановы, якія прама ці ўскосна вялі да прызнання беларускай дзяржаўнасці. Чаго вартыя былі пасля гэтага заявы Ю. Пілсудскага аб федэрацыі. Яны аказаліся прапагандысцкім манеўрам у рамках ілжывага лозунга аб вызваленчай місіі Польшчы на Усходзе.

Не дабіліся «беларускія паслы» і аб'яўлення раўнапраўя беларускай мовы з польскай, вядзення на беларускай мове справаводства, прызнання дзяржаўным Мінскага педагагічнага інстытута, а таксама надання дзяржаўнага статуса тром настаўніцкім семінарыям і чатыром гімназіям.

Польскі бок згадзіўся выдзеліць каля 11 мільёнаў марак (трэць запрошваемых субсідый) на розныя патрэбы сацыяльна-культурнага прызначэння: школьную справу, выданне газет і часопісаў, утрыманне настаўніцкіх семінарый і курсаў для беларускіх настаўнікаў, на стыпендыі студэнтам, публікацыю на беларускай мове царкоўных кніг і інш. Аднак Польшча рашуча адмовілася выдзеліць субсідыі для праваслаўнага духавенства, больш таго, запатрабавала праводзіць палітыку, накіраваную на адрыў праваслаўнай царквы Беларусі ад рускай патрыярхіі.

«Уступкі» польскага ўрада па сутнасці не датычылі палітычных аспектаў, якія выяўлялі яго жаданне ісці насустрач патрабаванням беларускіх паланафільскіх арганізацый аб стварэнні дзяржаўных інстытутаў.

Польшча не мела намеру прызнаваць нават ілюзорнай палітычнай самастойнасці Беларусі. У процівагу патрабаванню стварыць генеральны камісарыят па беларускіх справах пры польскім урадзе, польскі бок згадзіўся толькі на заснаванне па магчымасці ў рамках кіравання ўсходніх зямель паветовых, акруговых і генеральнага рэферэнтаў па беларускіх справах у рангу начальнікаў сакратараў, пазбаўленых, зразумела, якіх-небудзь адміністрацыйных паўнамоцтваў.

Ад беларускіх нацыяналістычных арганізацый патрабавалася толькі адно: «падтрымліваць Польшчу ў яе патрабаванні ад Расіі неўмяшання ў справы зямель, размешчаных на Захад ад граніцы 1772 года».

Было яўнай фальсіфікацыяй, што падтрымка тэрытарыяльных патрабаванняў Польшчы нібыта вынікала з трэцяй Статутнай граматы, якая «аб'явіла» 25 сакавіка 1918 года Беларусь «незалежнай вольнай дзяржавай».

Такім чынам, у пытанні аб дзяржаўнай самастойнасці Беларусі польскія прадстаўнікі абмежаваліся туманнымі, неакрэсленымі абяцаннямі, а прадстаўнікі «беларускіх палітычных колаў», на словах прыхільнікі недзялімасці і незалежнасці сваёй краіны, згаджаліся на фінансавыя падачкі.



**Пад архіўным здымкам подпіс: «Першы імя Мінскага Савета рэвалюцыйны чырвонаармейскі полк. 1920 год». У гэты час на Заходнім фронце ў складзе Омскай чырванасцяжнай дывізіі полк удзельнічаў у вызваленні і абароне Беларусі ад войск буржуазнай Польшчы.**
**Гісторыя ж узнікнення гэтага вайсковага падраздзялення цесна звязана з Кастрычніцкай рэвалюцыяй, дзеля заваёў якой яно і было створана мінскімі бальшавікамі 7 лістапада 1917 года. У час грамадзянскай вайны полк удзельнічаў у баях супраць войск Украінскай цэнтральнай рады, мяцежных банд Доўбар-Мусніцкага і войск Калчака.**

У «самай стро[illegible]анфідэнцыяльнай» справаздачы аб дасягнутым пагадненні польскі ўпаўнаважаны па паўночна-ўсходніх справах Л. Васілеўскі адзначаў, што ў адпаведнасці з дырэктывамі, атрыманымі зверху, польскі бок павінен быў «заручыцца падтрымкай беларусаў у перагаворах Польшчы з бальшавікамі і адначасова адхіліць патрабаванні беларусаў, якія яны лічылі мінімальнымі». Неабходна было ўсяляк пазбягаць дэкларацый палітычнага характару. А гэта азначала, што ў пагадненні не павінна было быць абавязацельстваў Польшчы адносна дзяржаўнага статуса.

Пагадненне дыскрэдытавала і той, і іншы бок. Таму яно павінна было трымацца ў самым строгім сакрэце. Але неўзабаве пра яго стала вядома прэсе. Польскі прэм'ер-міністр Л. Скульскі прыадчыніў заслону над тайнай, да вялікага незадавальнення другога высокага боку. Разумеючы характар здзелкі, якая падтрымлівала і адабрала экспансіянізм польскай буржуазіі і памешчыкаў, беларускія нацыяналістычныя дзеячы заявілі, што, маўляў, іх ніколі не пакідала імкненне да незалежнасці Беларусі. Справа абярнулася новым выкрыццём палітыкі беларускіх нацыяналістычных арганізацый, якія, не маючы сур'ёзнай сацыяльнай апоры, на справе адмаўляліся ад абвешчаных самімі ж прынцыпаў, дапамагалі буржуазна-памешчыцкай Польшчы ў яе захопніцкай палітыцы.

Найвышэйшай радзе хацелася ўсё ж заўважыць нейкія прыкметы, якія сведчылі б аб рэальных уступках з боку Польшчы. Рада бачыла пачатак беларускай дзяржаўнасці ў існаванні беларускіх фарміраванняў у складзе польскай арміі. Гэтаму надавалася важнае значэнне. Дапускаючы фарміраванне беларускіх часцей з асобым статусам, Польшча тым самым як бы прызнавала магчымасць утварэння беларускай буржуазнай дзяржаўнасці. 22 кастрычніка 1919 года Ю. Пілсудскі выдаў дэкрэт, які зацвердзіў склад Беларускай вайсковай камісіі (П. Аляксюк, А. Прушынскі, С. Рак-Міхайлоўскі, Н. Якубоўскі, Ф. Кушаль, В. Мурашка). Было нібыта навербавана 500 чалавек. Дэкрэт Ю. Пілсудскага не сустрэў, аднак, падтрымкі правых партый, якія лічылі, што такая армія зусім ненадзейная. На грошы Польшчы Беларуская вайсковая камісія на чале з вядомым П. Алексюком фарміравала атрады з беларусаў.

Асабліва забілі трывогу беларускія нацыяналістычныя арганізацыі ў перыяд майскага наступлення Чырвонай Арміі на Заходнім фронце. 29 мая 1920 года Беларуская вайсковая камісія звярнулася з заклікам уступаць у рады беларускага войска і разам з польскім войскам «бараніць сваю зямельку, ратаваць маці-Беларусь». Наступленне Чырвонай Арміі рысавалася як страшэнная пагроза існаванню беларускага народа, як «маскоўская навала». Таму зноў паднімаецца сцяг «незалежнасці Беларусі». Варта атрымаць гэтую «незалежнасць», як усё ўладзіцца. Беларуская вайсковая камісія аб'явіла, што кіраўнікі «беларускай палітыкі» дагаварыліся з Польшчай аб прадастаўленні Беларусі ў хуткім часе «незалежнасці», якая прынясе беларусам збаўленне ад усякіх бед, дасць магчымасць усталяваць парадак, якога нельга дасягнуць, пакуль ідзе вайна.

Вызваленчая барацьба беларускага народа, якая ўзмацнілася вясной і летам 1920 года, была накіравана і супраць акупантаў, і супраць іх саюзнікаў. Каб не апынуцца ў палітычнай ізаляцыі, беларускія эсэры пайшлі на адкрытую барацьбу з акупантамі, у тым ліку барацьбу ўзброеную, імкнучыся стварыць паўстанцкія камітэты, партызанскія дружыны і[illegible]шыя фарміраванні. Парт[illegible]шукала падтрымку і разуменне сярод сялянства, інтэлігенцыі, іншых слаёў насельніцтва. Яе лідэры не маглі не ўлічваць змяненняў настрою і імкненняў гэтай часткі грамадства, значных палітычных зрухаў у акупіраванай Беларусі. Расла рэвалюцыйная нацыянальная самасвядомасць працоўных. Шавінізм акупантаў абвастраў пачуцці нацыянальнай годнасці, патрыятычныя настроі. Савецкая ўлада разграміла полчышчы Калчака. Дзянікіна і іншыя белагвардзейскія арміі, дэманструючы ўсяму свету сваю жыццяздольнасць і ўзрослую магутнасць. У свеце рос аўтарытэт Савецкай дзяржавы, мацнела салідарнасць рабочага класа капіталістычных краін з Савецкай краінай. Класавыя антаганізмы раздзіралі польскае грамадства.

У гэтых умовах кіраўніцтву партыі беларускіх эсэраў даводзілася мяняць і дапаўняць свае ідэалагічныя пастулаты і тактычныя ўстаноўкі. Логіка падказвала аб'яднанне намаганняў патрыятычных, рэвалюцыйных сіл у барацьбе з акупантамі і іх мясцовымі саюзнікамі. Эсэры адмовіліся ад узброенай барацьбы з Савецкай уладай. Здавалася б, на гэтай аснове павінны быць зроблены новыя крокі да прызнання ўлады Саветаў, дыктатуры пралетарыяту.

Тэарэтычныя ўстаноўкі, якія змяшчала ў сабе праграма, прынятая беларускімі эсэрамі ў сакавіку 1920 года, гаварылі аб тым, што партыя мае на мэце сацыялістычную перабудову грамадскіх адносін, гэта значыць, імкнецца да сацыялізму. Але сацыялізм гэты — эсэраўскі, дробнабуржуазны, палавінчаты, непаслядоўны. Эсэры прапагандавалі ідэю «трэцяга шляху». На справе «трэці шлях», як адзначыў У. І. Ленін, вёў да згодніцтва з буржуазіяй і памешчыкамі.

Жыццё наладжвала экзамен палітычным арганізацыям, якія спрабавалі самавызначыцца ў якасці «трэцяй сілы» паміж пралетарыятам і буржуазіяй. Ход барацьбы, сутыкнення рэвалюцыі і контррэвалюцыі, атрыманы гістарычны вопыт садзейнічалі палярызацыі палітычных сіл. У выніку гэтага былі разлажэнні, расколы, размежаванні ў асяроддзі дробнабуржуазных арганізацый.

Называючы сябе «трэцяй сілай», эсэры ішлі на супрацоўніцтва з буржуазна-памешчыцкай Літвой. І, як пакажуць далейшыя падзеі, яны пойдуць на саюз з Польшчай, арганізуючы паўстанні, бандытызм на тэрыторыі Савецкай Беларусі.

Свае надзеі на лепшае жыццё, нягледзячы на супярэчлівасць сацыяльнага статуса, дробнабуржуазныя масы ўсё больш звязвалі з уладай, якую адстойвалі бальшавікі, з умацаваннем адзінства народаў Савецкай краіны ў барацьбе з інтэрвентамі і белагвардзейцамі.

Летам 1920 года Чырвоная Армія пры паўсюдным садзейнічанні насельніцтва вызваліла Беларусь ад акупацыі. «Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусі» ад 31 ліпеня 1920 года аб'явіла аб аднаўленні беларускай савецкай дзяржаўнасці. Пачаўся новы этап нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва беларускага народа, які з'яўляўся арганічнай часткай агульнага працэсу станаўлення савецкай федэрацыі, што атрымала ў 1922 годзе імя — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Старая нацыянальная інтэлігенцыя актыўна ўцягвалася ў будаўніцтва новага жыцця. Усюды: у кіраўніцтве, у культуры, у навуцы, у эканамічнай сферы — патрэбны былі адукаваныя, дасведчаныя спецыялісты. Актыўным удзельнікам «беларускага руху», якія прызналі свае памылкі, была таксама прадастаўлена магчымасць працаваць на карысць новага ладу. Некаторым з іх былі давераны даволі высокія пасады.

Незаконныя рэпрэсіі, якія пачаліся ў Беларусі ўжо ў канцы 20-х гадоў, закранулі перш за ўсё гэтую частку інтэлігенцыі. Яе палітычная пазіцыя ў гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны абцяжарвала абвінавачванні ў так званым нацыянал-дэмакратызме, гэта значыць, у дзеяннях, накіраваных на адрыў Беларусі ад Савецкага Саюза, у рэстаўрацыі капіталізму, у служэнні замежным разведкам.

**Вадзім КРУТАЛЕВІЧ,**
**доктар юрыдычных навук, прафесар.**

# КАВАЛАЧКІ МАЁЙ БІЯГРАФІІ

Дарагія сябры!

Перш за ўсё хачу перадаць вам сардэчнае прывітанне ад усіх сваіх знаёмых суайчыннікаў у Бельгіі і пажадаць усяго найлепшага ў жыцці і добрага здароўя. Мы, як і вы, хочам, каб народы на планеце жылі дружна і шчасліва, каб сонейка заўсёды свяціла для ўсіх людзей. І мы шчыра рады, удзячны і ганарымся тым, што наша вялікая Радзіма — Савецкі Саюз прыкладае ўсе намаганні, каб захаваць і ўмацаваць мір на планеце, і сваёй міралюбівай знешняй палітыкай паказвае прыклад іншым дзяржавам.

Асабіста ад сябе хачу падзякаваць вам, паважаная рэдакцыя, за беларускую газету, якую вы робіце такой цікавай для нас, беларусаў, хто жыве ўдалечыні ад роднай зямлі. Я чытаю «Голас Радзімы» вельмі ўважліва. Вядома, усяго не запомніш, але многія матэрыялы я перачытваю і адкладваю на памяць. Асабліва, калі напісана пра блізкія мне куточкі Беларусі. Мяне надта кранула фатаграфія бабулі Ганны Усавай з Бялыніцкага раёна Магілёўскай вобласці. Гэты раён мяжуе з Круглянскім, месцам, дзе я вырасла, дзе жывуць яшчэ мая мама і брат з сям'ёй. Кожны раз, калі гасцюю на Радзіме і наведваю горад Магілёў, то праязджаю праз гэтую мясцовасць. І калі гляджу на фатаграфію бабулі Ганны, я як быццам бачу сваю родную маму. Ёй ужо восемдзесят чатыры гады. Якія падобныя нашы беларускія жанчыны, што пражылі доўгае і цяжкае жыццё! У Ганны Усавай такі мілы погляд. Пазірае яна на мяне з партрэта і нібыта хоча сказаць: «Мацуйся, дачушка, бяры прыклад з мяне. Не забывай, што ты дачка беларускага народа. А наш народ можа вынесці ўсё. І не забывай твар беларускай бабулі».

А беларускія ганчары, аб якіх часта пішацца на старонках вашай газеты! Гэта таксама кавалачак з маёй уласнай біяграфіі. Мой дзядуля, бацька бацькі, быў добрым ганчаром. Ён памёр за некалькі год да вайны. Мне тады не было і дзесяці. Але я да сёння добра яго помню. Высокі мужчына, штаны закасаны да калень. Помню яго стары домік. Мае дзядуля і бабуля былі людзьмі беднымі. Гадавалі пецярых дзяцей. Быў у іх кавалачак зямлі, якую яны апрацоўвалі, але гэтага не хапала для вялікай сям'і. Дзядуля рабіў гаршкі, гарлачыкі, міскі і іншы посуд. Глінянага пеўніка ён для мяне не зляпіў, затое зрабіў маленькія гаршочкі для кветак, якія я рвала ў лесе і на лузе. Работа ганчара раней была вельмі цяжкай. Я помню, як мой дзядуля мясіў гліну нагамі. Я таксама дапамагала яму, але заўсёды баялася, што не змагу вылезці з гэтай гліны. А дзядуля з мяне смяяўся. Вось чытаю ваш артыкул пра ганчароў, успамінаю сваё дзяцінства, і ўсе гэтыя карцінкі паўстаюць перад вачыма.

Цікавыя мне і публікацыі пра жывёльны свет і прыроду. Калі іх чытаю, адчуваю сябе нібы на любімай Радзіме, у дарагой мне вёсцы Альшанікі. А з вашай «Беларускай кухні» многа што сама гатавала. Напрыклад, бульбяную бабку, у нас у вёсцы называецца «чачоха». Вельмі смачна! Так што і ў гэтых адносінах газета для мяне карысная. А калі гаварыць сур'ёзна, то «Голас Радзімы» дае вялікую інфармацыю па самых розных аспектах жыцця нашай роднай Беларусі. Немалую карысць прыносяць нам і вашы брашуры, дзе падрабязна разглядаюцца многія цікавыя для нас пытанні.

Яшчэ раз дзякую за вашу такую патрэбную для нас працу. Вашу газету заўсёды чакаю, як дарагую госцю.

**Вера САЗАНОВІЧ.**

Бельгія.

## СПАДЗЯЮСЯ НА ДОБРЫЯ ПЕРАМЕНЫ

Доўга збіралася напісаць вам гэта пісьмо. Часу вольнага стала мала, але гэта радуе. Справа ў тым, што з'явілася шмат работы ў нашым мясцовым аддзяленні Таварыства Італія — СССР. Мяне сталі запрашаць туды выступіць з расказамі пра розныя рэспублікі нашай Радзімы. Даводзіцца шмат чытаць, падбіраць розныя матэрыялы. Я бачу, што людзі слухаюць з цікавасцю, задаюць многа пытанняў, таму стараюся падрыхтавацца лепш. Увогуле, апошнім часам інтарэс італьянцаў да нашай Радзімы вельмі ўзрос. Цяпер у наша Таварыства ходзіць значна больш людзей, чым год назад, бывае многа маладых людзей. Гэта не выпадкова. Палітыка Савецкай краіны прыцягвае ўвагу ўсяго свету. Пасля сустрэчы ў Вашынгтоне большасць італьянцаў ставяцца з вялікай сімпатыяй да Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова і спадзяюцца на добрыя перамены ў міжнародных адносінах.

А вось у нашых унутраных праблемах прасвету не відаць. Тут пастаянна ідзе барацьба за пасты міністраў ва ўрадзе. Яны часта мяняюцца, і кожны мае свае мэты. Простым людзям ад гэтага не робіцца лягчэй. І цяпер многа праблем у нашай эканоміцы. Жыццё становіцца даражэйшым з кожным годам. Напрыклад, кватэрная плата павялічылася за два гады ў чатыры разы. Іншую кватэру знайсці амаль немагчыма. За маленькую двухпакаёвую даводзіцца плаціць 600 тысяч лір у месяц. А на што ж жыць?! Расце беспрацоўе. Многія ад гэтага пакутуюць, асабліва моладзь. Яна шукае выйсце і не знаходзіць. Адсюль і злачыннасць, і наркаманія, і самагубствы. Кідаюцца пад паязды ў метро, атручваюцца газам, паміраюць ад наркотыкаў. Кожны дзень маладых людзей 18—20 год знаходзяць мёртвымі ў метро і проста на вуліцах. А грабяжы! Цяпер нават не чакаюць вечара, а і днём заходзяць у дамы, звязваюць гаспадароў і выносяць з кватэры што хочуць. Аб гэтым ужо нават у газетах не пішуць, толькі час ад часу скажуць па тэлебачанні. І гэта ў нас называецца «свабода і дэмакратыя».

Сумна штодзённа бачыць такое жыццё. Таму я была шчаслівая, калі нядаўна мне ўдалося трапіць на выдатны канцэрт Чырванасцяжнага ансамбля песні і танца Савецкай Арміі. На жаль, ён быў у Мілане толькі два дні. У вялікай зале, дзе звычайна іграюць у валейбол, сабраліся тысячы людзей. Усе нумары вельмі цёпла прымаліся гледачамі. А калі ў канцы артысты заспявалі італьянскую песню пра Мілан на міланскім дыялекце, усе ўсталі і апладысменты былі такія, што, здавалася, разарвалася бомба. Усе былі ўзрушаны. Я потым чула абмеркаванне гэтага канцэрта. Адна жанчына сказала, што пражыла ў Мілане 75 год, але ўпершыню ў жыцці чула і бачыла такі цуд. І я ганарылася нашымі артыстамі, нашай Радзімай, якая пакарае свет не зброяй і сілай, а талентамі свайго народа. Вельмі захацелася і самой зноў прайсціся па роднай зямлі, адпачыць ад вечнага хвалявання і страху. Спадзяюся, што летам змагу зноў пабываць у любімай Беларусі. Таму, развітваючыся, з надзеяй пішу — да хуткай сустрэчы!

**Леанарда МАЛЕЕВА.**

Італія.

## ВАЛЬНЕЙ ДЫХАЕЦЦА

Вялікае дзякуй, дарагія сябры, за тое, што вы мяне не забываеце. Інакш жыць было б тут зусім нявесела. Вось ужо чатыры гады я моцна хварэю. Калі папраўлюся, невядома. Ды і акружэнне, у якім жыву, мяне зусім не радуе. У нашым раёне даволі многа людзей, настроеных прафашысцкі, і сіяністаў. Так што чалавеку, аб якім ведаюць, што ён прытрымліваецца сацыялістычных поглядаў, а тым больш, калі яго Радзіма — Савецкі Саюз, даводзіцца тут нясоладка. А я ж дачка бальшавіка з Заходняй Беларусі і заўсёды пра гэта помню. Я не бывала ў Савецкім Саюзе. Спачатку не дазвалялі розныя сямейныя акалічнасці, цяпер — здароўе. Але я маю шчасце атрымліваць газету «Голас Радзімы». Яна мяне ратуе і дае сілу ў жыцці. Чытаеш, думаеш пра нашу цудоўную Радзіму, і вальней дыхаецца. У Францыі рэдка што можна пачуць пра Савецкую краіну. Але ўсё ж апошнім часам пра яе гавораць больш і нават тое-сёе паказваюць па тэлевізару. Так, я бачыла цудоўныя выступленні артыстаў балета Ленінграда і Масквы. Паказвалі фільм пра Маскву, і французы даведаліся, што гэта вялікі і прыгожы горад, чысты, з цікавай архітэктурай. А мне яшчэ мацней захацелася пабываць на Радзіме. Спадзяюся, што сёлета змагу ажыццявіць сваю мару. Тады буду ў Мінску і абавязкова зайду да вас у рэдакцыю. А пакуль не забывайце мяне, як я ніколі не забываю пра вас. Яшчэ раз дзякуй за газету.

**Кацярына МІЦЬКО.**

Францыя.

# ПРЫРОДНАЕ ПРЫЦЯГНЕННЕ

Дарагія сябры! Дзякуй вам за газету «Голас Радзімы», якую я пастаянна чытаю і кожны раз даведваюся пра што-небудзь новае ў справах і жыцці людзей маёй роднай Беларусі. А цяпер хачу расказаць пра сваё жыццё. Спадзяюся, што вам гэта будзе цікава.

Я ўжо стары, 12 сакавіка мне споўнілася восемдзесят восем гадоў. Нарадзіўся я ў 1900 годзе ў вёсцы Рыдзялі, непадалёк ад Верцялішак Гродзенскай губерні. Цяпер Рыдзялі ўваходзяць у вядомы [illegible]эс «Прагрэс». У 1914 годзе скончыў двухкл[illegible]ую прыходскую школу ў Верцялішках. А ў 1927 годзе пакінуў сваю Радзіму, якая была ў той час пад панскай Польшчай. І вось ужо больш за шэсцьдзесят гадоў у Канадзе. Жон[illegible] якой пражылі трыццаць сем гадоў, паме[illegible] Але ў мяне двое дзяцей, дзевяць унукаў і пяць праўнукаў. Так што карані мае пушчаны глыбока ў канадскую зямлю. І ўсё ж я пастаянна ўспамінаю тыя дваццаць сем гадоў, што пражыў на радзіме. Хаця жыццё гэта было і не вельмі радасным. Як і ўсе сяляне, жылі ў курнай хаце. Асвятлялася яна лучынай. Харчаваліся ў асноўным бульбай, капустай і іншай гароднінай. Малако было раскошай, бо каровы былі не ва ўсіх сялян. Зімой трымалі курэй пад печчу ў хаце, а калі было асабліва холадна, дык у хату забіралі ўсю жывёлу, якую мелі. Такім было становішча беларускіх сялян пры царскім рэжыме. Не лягчэй жылося і пры панскай Польшчы. Яшчэ ў тыя часы, калі было адменена прыгоннае права, мой дзед атрымаў дванаццаць дзесяцін зямлі. У яго было чатыры сыны, і майму бацьку дасталося ў спадчыну тры дзесяціны. І ў бацькі было чатыры сыны, адзін з іх я. Ну як жыць? Беднота і галеча беспрасветная.

Пасля сарака чатырох гадоў майго жыцця ў Канадзе я надумаў паехаць на Радзіму ў сваю вёску Рыдзялі. Ажыццявіць гэта мне дапамагла рэдакцыя газеты «Голас Радзімы». Вялікае вам за гэта дзякуй. Цэлы месяц верасень 1971 года я пражыў у свайго пляменніка Міхаіла, сына майго старэйшага брата Аляксея. Гэта быў час радасных сустрэч з маімі роднымі і знаёмымі, якія мяне памяталі. Я гутарыў з імі аб мінулым і аб тым, як яны жывуць цяпер, пытаўся, ці задаволены яны. Адказ быў адзін: нам жывецца добра, з кожным годам усё лепш, і цяпер галоўнае, каб толькі не было вайны. Некаторыя прызналіся, што ў пачатку калектывізацыі яны былі супраць, але жыццё паказала, што яны памыл[illegible]ся.

У час майго знаходжа[illegible] ў Рыдзялях я ўбачыў, што там асушаны балоты, ва ўсёй вёсцы электрычнасць, тэлевізары, халадзільнікі, пральныя машыны і ўсялякая іншая бытавая тэхніка. Пабудавалі вялікую школу, ферму і халадзільнік для малака. Магчыма, хто-небудзь скажа: ну і што, [illegible]грэс ідзе ўсюды. Гэта так, але я ж помні[illegible]ім іншую вёску. І што за невялікі тэрмін адбудуцца такія відавочныя перамены, ніяк не чакаў. Я рады, што мой народ цяпер не ведае той галечы, якую перажыў я. Але ўжо і з той паездкі прайшло шмат часу, і я думаю, што зараз родную вёску я б не пазнаў зусім.

Якім цяжкім ні было маё жыццё на радзіме, а ўсё-такі дваццаць сем гадоў — час немалы, і яго я не магу забыць. Там я нарадзіўся, там першы раз убачыў сонца і ўсмешку маці, пачуў мову маці, пазнаў і палюбіў беларускую прыроду. І цяпер, пасля шасцідзесяці гадоў у Канадзе, я не магу забыць свой народ, сваю мову, сваю Радзіму. Відаць, забыць яе не зможа ні адзін нармальны чалавек, і якоесьці прыроднае прыцягненне ўсё жыццё звязвае нас з родным краем.

З газеты «Голас Радзімы» я даведаўся, што калгас «Прагрэс», дзе знаходзяцца мае Рыдзялі, ужо мільянер, гэта значыць, атрымлівае штогод звыш мільёна рублёў прыбытку, што трапіць туды і застацца жыць імкнуцца цяпер многія людзі. А нам даводзілася ўцякаць ад галечы. Да чаго ж жыццё змянілася! Слава і гонар за гэта Савецкай уладзе і савецкаму народу!

**Рыгор АПЛЕВІЧ.**

Канада.

## ДЛЯ КАГО НЕБЯСПЕЧНАЯ ПЕРАБУДОВА?

Вельмі ўдзячны вам за кнігі і газеты, якія вы мне прысылаеце. Апошні раз я быў на Радзіме амаль дваццаць год назад. Таму мне вельмі цікава чытаць вашу газету, з якой даведваюся пра беларускія навіны, пра тое, што адбываецца ва ўсім Савецкім Саюзе. Напрыклад, пра вялікія перамены, якія, я спадзяюся, зробяць жыццё народа яшчэ лепшым. Вашы газеты пішуць аб публічнасці і перабудове. Гэтыя словы ўжо прыжыліся і ў англійскай мове, і іх даволі часта можна пачуць тут, у Англіі. Але ставяцца да іх, больш дакладна, да працэсаў, якія яны абазначаюць, па-рознаму.

Вы самі добра ведаеце, што толькі сарока ўбіраецца ў адно і тое ж пер'е. А людзі ўсе розныя. І тут ёсць людзі, а ёсць і нікчэмныя асобы. З большасцю нашых свядомых землякоў мы часта размаўляем і разумеем адзін аднаго. Мы лічым, што перабудова — гэта працэс заканамерны і неабходны, радуемся, што нашы суайчыннікі стараюцца зрабіць сваю краіну перадавой ва ўсіх галінах гаспадаркі, навукі, тэхнікі. Гэтыя людзі, як і я, ад душы жадаюць поспехаў у нялёгкай працы. Мы таксама жадаем вам поспехаў у барацьбе за мір ва ўсім свеце.

Але вось тыя нікчэмныя людзі, пра якіх я ўпамінаў, ніяк не хочуць мяняць свайго погляду на наш Савецкі Саюз. Сваёй нянавісцю яны сапсавалі і дзяцей. Дык вось для іх перабудова і публічнасць — гэта, як яны самі часта пішуць у розных газетах, «вялікая небяспека». Чаму «небяспека»? Ды таму, што раней яны маглі хапацца за любы ваш недахоп, усюды крытыкаваць вас і атрымліваць за гэта грошы. Ды яшчэ называлі іх «барацьбітамі за справядлівасць». А цяпер вы самі адкрыта расказваеце пра ўсё, што вас хвалюе, у тым ліку і пра свае недахопы, і самі іх выпраўляеце. Гаварыць ім цяпер няма пра што. Акрамя таго, яны разумеюць, што поспехі новай палітыкі савецкага кіраўніцтва зробяць Савецкі Саюз яшчэ больш магутнай дзяржавай і папулярнай. Ужо і цяпер аўтарытэт нашай Радзімы ва ўсім свеце вельмі высокі. А ім гэтага якраз і не хочацца. На шчасце, такіх нікчэмных людзей нямнога, іх лямант мала каго тут пераконвае. Ну а вам дык і ўвогуле не варта звяртаць увагу на іх крыкі. Усе яны ўжо даўно палітычныя нябожчыкі.

Яшчэ раз жадаю вам поспехаў у вашай нялёгкай рабоце.

**Мікалай ВЯЕЎНІК.**

Англія.

ВУЧОНЫ, ПІСЬМЕННІК І МАСТАК СПАЛУЧАЮЦЦА Ў АДНЫМ ЧАЛАВЕКУ

# ПРАРОЦТВА НА ГАСЦІНЦЫ

—Куды далёка ідзеш? — пачалі распытваць незнаёмыя.

— У Вінеўку.

— У якім класе вучышся?

— У чацвёртым.

— А поспехі якія?

— Ды як калі, — ухіляўся я ад канкрэтнага адказу.

— А які ўрок табе найбольш падабаецца?

— Гісторыя!—пажвавеў я.— Слухаў бы настаўніцу цэлы дзень — так цікава!

Мужчына паклаў мне на плячо руку і сур'ёзна сказаў:

— Вырасцеш — станеш гісторыкам.



...І тое прароцтва на гасцінцы спраўдзілася — я стаў гісторыкам. І не проста гісторыкам, а археолагам, гэта значыць, тым, хто вывучае дапісьменнае мінулае нашага народа шляхам раскопак...

Гэты дыялог я ўзяў з кнігі Міхася Чарняўскага «Страла Расамахі», якая выйшла ў 1985 годзе. Так сказаў аўтар пра сябе ў прадмове. Сапраўды ён стаў археолагам, вядомым вучоным, яго цэняць і шануюць не толькі ў нашай роднай Беларусі, але і ў Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Вільнюсе, Рызе, нават за мяжой.

М. Чарняўскі нарадзіўся для археалогіі. Вочы пільна ўглядаюцца ў пласты зямлі, каб раптам нешта навукова каштоўнае не праскочыла міма яго ўвагі. З вясны да восені Міхась Чарняўскі заняты экспедыцыйнымі клопатамі. Раскопкі археалагічных помнікаў ён вядзе то на беразе Нёмана, то поруч з роднай яму Нараччу, то недзе пад Бранскам адкрывае жыллё першабытнага чалавека, збудаванае з вялізных мамантавых костак, то даследуе старажытныя шахты ля пасёлка Краснасельскі на Гродзеншчыне, то вывучае тарфянікавыя стаянкі ў Падзвінні ці рэшткі паселішчаў каменнага веку на Віліі. Апрануты ў выцвілую ад сонца і прамытую дажджамі штармоўку, добра стаптаныя чаравікі, з рукзаком за плячыма, з якога тырчыць маленькая рыдлёвачка і іншыя прыстасаванні, ён мерным крокам адлічвае кіламетры ад адной выспачкі да другой. Колькі тых кіламетраў пройдзена—ён і сам не ведае, хто іх там будзе і лічыць, калі таго патрабуе навука. Займаецца Міхась Міхайлавіч даследаваннем эпохі каменю і бронзы, а дакладней — помнікамі IV—VI тысячагоддзяў да нашай эры.

Няцяжка здагадацца, што няпроста здабываўся матэрыял з глыбокіх напластаванняў, якія хаваюць таямніцы мінулага. Толькі такім разведчыкам навукі, як М. Чарняўскі, яны «расказваюць», як жылі далёкія прашчуры.

Цікавыя і павучальныя навуковыя кнігі М. Чарняўскага «Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі» (1981), «З глыбінь тысячагоддзяў» (1987) і ўжо названая «Страла Расамахі» (1985). Гэта яшчэ і літаратурныя творы. Нават яго манаграфія «Неаліт Беларускага Панямоння» (1979) чытаецца з захапленнем. Скора павінна выйсці яшчэ адна кніга «Вогнешукальнікі» — пра час з'яўлення жалеза на нашай зямлі. А колькі ў Міхася Чарняўскага апавяданняў, што друкаваліся ў розных перыядычных выданнях! Поўная драматызму аповесць пра старажытнага героя Збітура, якую ў свой час змясціла «Бярозка», ці аповесць «Бурштынавая пацерка», што друкавалася ў «Маладосці». Ці вось яшчэ адно. Вазьміце ў рукі першы том «Гісторыі беларускага мастацтва» і там прачытаеце цэлы раздзел пра старажытнае мастацтва, які напісаны Міхасём Чарняўскім паводле ўласных даследаванняў і назіранняў. Тут і яго знаходка — статуэтка з косці (дарэчы, знойдзена на стаянцы Асавец на Віцебшчыне), упрыгажэнні з бурштыну, якія ён выявіў пры раскопках Крывінскай стаянкі на Сенненшчыне, унікальная драўляная статуэтка з-пад Бешанковіч, яна самая старажытная на тэрыторыі Беларусі.

Мастацтва і мастацтвазнаўства — гэта яшчэ адна грань шырокіх захапленняў Міхася Чарняўскага. Ва ўсім, што напісана Чарняўскім, жыве яго душа. Ён аўтарытэтны аўтар і кансультант БелСЭ. Чарняўскі — мастак, і гэта не памылка[illegible] Дастаткова ўспомніць яго жа[illegible] ў малюнках, што былі змешчаны ў часопісах «Маладосць», «Беларусь», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Колькі тут дасціпнасці, а разам з тым і глыбокай думкі. Гэта якраз [illegible]ць той Міхась Чарняўскі — [illegible]сёлы, жартаўлівы чалавек, якога шмат хто ведае і любіць. Мастацтва для вучонага — толькі аддушына ў перыяд нялёгкай працы археолага. Рэдка ў яго бываюць дні адпачынку, працуе ён па-сялянску шмат—ад рання да змяркання: толькі з адной работай справіўся, а тут другая ў руках.

У Міхася Чарняўскага душа хінецца да ўсяго, што дорага нашаму народу. Напрыклад, не было ў нас беларускіх календароў-кніжак, і ён становіцца арганізатарам такога выдання. Узяў на сябе клопат, каб той каляндар «Кола дзён» выйшаў як найхутчэй. Нават сам пісаў для яго асобныя артыкулы.

Трэба прызнаць, што Міхась Чарняўскі як літаратар валодае сакавітым беларускім словам, у яго натуральны дыялог, пранікнёная ўважлівасць да кожнай дэталі. А яшчэ ён мае талент слухаць іншых і быць надзвычай здольным дарадчыкам. Яго вочы свецяцца радасцю за поспехі сяброў, за добра зробленую справу. Ці плацяць яму дабром сябры? Яшчэ і як! Беларускія пісьменнікі прысвячаюць яму свае творы, напрыклад Анатоль Грачанікаў, Уладзімір Караткевіч. Дарэчы, апошняму Міхась Чарняўскі паслужыў прататыпам для стварэння вобраза Мар'яна — шукальніка даўніны ў вядомай кнізе «Чорны замак Альшанскі». З удзячнасцю ўспамінаюць вучонага тыя, каму ён дапамог абраць дарогу ў жыцці. Сярод іх доктар гістарычных навук Міхась Ткачоў, кандыдат гістарычных навук Эдвард Зайкоўскі і іншыя.

Нялёгка ўсё прыпомніць з багатай і такой шматграннай біяграфіі вучонага. Яму спаўняецца пяцьдзесят гадоў. Сын мядзельскіх сялян, ён поўны сіл і жадання рабіць свой творчы працяг у новых кнігах, гумарыстычных малюнках, археалагічных экспедыцыях. Лічыць гэта сваім вялікім шчасцем.

**Генадзь КАХАНОУСКІ,**
**кандыдат гістарычных навук.**

# УРОКІ ТВОРЧАГА ЖЫЦЦЯ

*ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ МАРЫЭТЫ ШАГІНЯН*

У 15 год на пачатку XX стагоддзя Марыэта Шагінян увайшла ў літаратуру. У 94 гады напісала апошні артыкул. У яе жыцці (1888—1982) усё было незвычайна: і даўгалецце актыўнай творчасці, і рознабаковасць інтарэсаў, і універсальнасць таленту. За сваё жыццё яна зрабіла вельмі многа.

Кароткія біяграфіі яе ў энцыклапедыях і даведніках стракацяць словамі «першы», «першая», «адна з першых».

Шагінян першая ў савецкай літаратуры стварае эпічнае палатно аб сацыялістычным будаўніцтве — раман «Гідрацэнтраль». Ёй належыць адзін з першых савецкіх дэтэктываў «Мес-Менд», экранізаваны і перакладзены на мноства моў.

Аповесць Шагінян «Уваскрэсенне з мёртвых» нараджаецца ў працэсе даследчай работы ў архівах Ленінграда, Прагі, Рыма, Пармы, Мілана, Венецыі, Парыжа. Яна знаходзіць партытуру оперы «Медонт» чэшскага кампазітара XVIII стагоддзя Йосефа Мыслівечака, якая лічылася страчанай, і выдае цікавую кнігу, адрадзіўшы забытую спадчыну выдатнага музыканта, сябра Моцарта.

Музыку яна ведае і разумее. Вось два сведчанні, якія варты соцень іншых:

«З гэтага часу, гаворачы пра сябе, магу смела спасылацца на Вас. Аўтарытэтнасць Ваша тут несумненная». Гэта з пісьма Сяргея Рахманінава да Шагінян.

«Калі Вы што-небудзь напішаце пра мяне, то гэта для мяне будзе вялікім падарункам... Паўтараю: усё, што выйшла з-пад Вашага пяра, будзе для мяне вялікім гонарам». Гэта — Дзмітрый Шастаковіч.

Яе эрудыцыя ўражвае спецыялістаў. Шагінян не толькі выдатны літаратар і журналіст. Яна доктар філасофіі. Выдатна арыентуецца ў палітэканоміі. Валодае некалькімі еўрапейскімі мовамі. У 30-х гадах з поспехам чытае лекцыі па эстэтыцы і... авечкагадоўлі, а таксама ткацкай справе.

Яе не можа цярпець Троцкі. Напэўна, таму пакідае ў спакоі Сталін. Яна [illegible]заляе сабе не згаджацца з Хрушчовым. [illegible]оўнікі і бюракраты баяцца яе як агню — размаўляючы з імі, яна не падбірае слоў. Шагінян заўсёды гаворыць тое, што думае, і літаратурныя кан'юнктуршчыкі пазбягаюць яе.

І сёння помніцца рэзананс, вык[illegible]ы яе славутым артыкулам «Выбар вары[illegible]». Шагінян рэзка крытыкуе ўжо зацверджаны праект трасы аднаго з участкаў будуемай Паўднёвасібірскай магістралі як нерэнтабельны. Некалькі месяцаў пісьменніца змагаецца з магутнымі ведамствамі і перамагае. Рашэнне перагледжана. Крытыка прызнана правільнай. Нагадаем, што адбываецца гэта не ў 1987 годзе, у перыяд публічнасці, а ў 1947-м. Акадэмік Уладзімір Абразцоў пісаў: «Вопыт нястомнай М. Шагінян паказвае, што можа зрабіць пісьменнік, калі ён актыўна ўмешваецца ў жыццё, а не спрабуе назіраць яго толькі з акон свайго кабінета».

Шагінян — аўтар манаграфій пра Іагана Вольфганга Гётэ, Тараса Шаўчэнку, Івана Крылова, Нізамі Гянджаві, Яна Амоса Каменскага, Яраслава Гашака, Аляксандра Шырванзадэ, Мікаэла Налбандзяна... З неаслабнай цікавасцю чытаюцца і сёння яе старыя замежныя нарысы пра Чэхаславакію, Бельгію, Нідэрланды, Францыю, Італію, прасякнутыя глыбокай павагай да людзей іншых краін, іх спраў, поглядаў, надзей.

У яе вялікім архіве пісьмы Аляксандра Блока, Зінаіды Гіпіус, Дзмітрыя Мережкоўскага, Валерыя Брусава, Рамэна Ралана, Надзеі Крупскай, Максіма Горкага, Андрэя Белага, Марыны Цвятаевай... І пісьмо ад рэдактара часопіса «Красная новь» Аляксандра Варанскага: «Ведаеце, вельмі Вашы рэчы падабаюцца таварышу Леніну».

Ленінская тэма бачна ці нябачна праходзіць праз усю творчасць Шагінян. Яе Ленініяна складаецца з чатырох частак: двух раманаў — «Сям'я Ульянавых» і «Першая Усерасійская», аднаго эскіза рамана «Білет па гісторыі» і кнігі філасофскіх роздумаў над творамі і асобай самога Леніна «Чатыры ўрокі ў Леніна». За сваю тэтралогію (яна стваралася з 1937 па 1969 год) Шагінян удастоена Ленінскай прэміі. Гэты твор — надзвычай тонкае па глыбіні мастацкае даследаванне ленінскага стылю жыцця, работы, думак.

Перад самай смерцю ёй, ужо зусім амаль сляпой, удаецца завяршыць свае надзвычай цікавыя мемуары «Чалавек і Час», кнігу, якую чытаюць яе сучаснікі і будуць чытаць нашы нашчадкі.

Сціпласць — характэрная рыса Шагінян. Яна заўсёды абслугоўвае сябе сама. Не мае асабістага сакратара, хатняй работніцы. У яе невялікай кватэры няма дарагіх рэчаў —стол, канапа і кнігі... Кнігі, рукапісы, газеты. Яна працуе кожны дзень. Яна любіць работу. І не выносіць бяздзейнасці, неабавязковасці, расхлябанасці. Літаратар Канстанцін Серабракоў неяк спытаў яе, у чым надзвычайная тайна маладосці яе душы. Яна адказала так:

— У мяне асобая дамоўленасць з часам. Часам з вялікай літары. Я ніколі яго не абражвала — у мяне не было за ўсё маё жыццё мінуты, калі б я адчула, што час цягнецца і мне сумна ці часу не хапае і мне няма калі. І я ніколі не дазваляла сабе што-небудзь рабіць толькі для таго, каб «бавіць час». Можа, таму ён і мілуе мяне.

Гэтыя словы — лепшая эпітафія славутай пісьменніцы. А ўрокі яе творчага жыцця павучальныя сёння і будуць мець несумненную цікавасць заўтра.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

## *ПРЭМ'ЕРЫ, ВЫСТАЎКІ, СУСТРЭЧЫ*

### ВЕЧАР НОВАЙ КНІГІ

*Чарговы вечар новай кнігі ў Доме літаратара быў прысвечаны завяршэнню выдання пяцітомнай «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі» — унікальнага даведніка, што найбольш поўна і шматгранна адлюстроўвае развіццё беларускай літаратуры, тэатра, кіно, выяўленчага мастацтва, расказвае пра ўчарашні і сённяшні дзень культуры.*

*Уступным словам вечар адкрыў і вёў галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» І. Шамякін. Сваімі думкамі пра новае выданне падзяліліся доктар мастацтвазнаўства А. Сабалеўскі, доктар філасофскіх навук У. Конан, доктар філалагічных навук А. Мальдзіс, кандыдат гістарычных навук М. Піліпенка, доктар філалагічных навук А. Міхневіч.*

### ВАЛЯНЦІНУ ЛУКШУ — ЗНАК АРКАДЗЯ ГАЙДАРА

*Па традыцыі за заслугі ў справе камуністычнага выхавання падрастаючага пакалення, важкі ўклад у развіццё навукова-тэхнічнай і мастацкай творчасці, працоўных аб'яднанняў, спартыўнай і ваенна-патрыятычнай работы сярод навучэнцаў, поспехі ў падрыхтоўцы юных грамадзян да жыцця і працы штогод прысуджаюцца ганаровыя знакі А. Гайдара.*

*Сярод тых, хто сёлета ўдастоены знака вядомага савецкага дзіцячага пісьменніка,— Валянцін Лукша, пісьменнік, дырэктар выдавецтва «Юнацтва», член рэспубліканскага Савета піянерскай арганізацыі імя У. І. Леніна.*

### КАРЦІНЫ З ГОРАДА ДЗЯЦІНСТВА

*Не машына часу, а палотны таленавітай беларускай мастачкі Нінель Шчаснай дапамаглі старажылам Полацка вярнуцца ў сваё юнацтва. У Багаяўленскім саборы, архітэктурным помніку XVII стагоддзя, праходзіць персанальная выстаўка яе работ, створаных за 30 год.*

*Таленавітая жанчына таленавітая ва ўсім. Спецыяльна трэніруючы рукі для моцы, яна стала шкловыдзімальшчыцай і стварыла вітражы ў інтэр'еры вытворчага аб'яднання «Гарызонт». Больш як 20 тон шкла ўвасобілася ў рэдкія па прыгажосці творы мастацтва. Спецыялістаў здзіўляюць яе літаграфіі і афорты, афармленыя мастачкай беларускія кнігі.*

### АДКРЫЛАСЯ МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ

*Убачыць творы мастакоў Беларусі розных пакаленняў магілёўчане могуць у карціннай галерэі, якая адкрылася на пачатку сакавіка. У яе залах выстаўлены 85 работ жывапісцаў, графікаў, скульптараў. Сярод іх вядомыя карціны М. Савіцкага «Партызаны», «Хлеб», «Позні я грушы», У. Стальмашонка «Народныя камісары БССР», палатно У. Хрусталёва «Канстанцін Заслонаў», скульптурны партрэт Героя Савецкага Саюза М. Сільніцкага работы З. Азгура, графічныя серыі А. Кашкурэвіча, «Балада аб лаўскім баі» Л. Асецкага, творы іншых майстроў пэндзля і разца. Выстаўку арганізаваў Дзяржаўны мастацкі музей БССР.*

*Магілёўская карцінная галерэя адкрыта ў старым будынку, прасторныя залы якога дазваляюць разгарнуць тут перасоўную выстаўку любому музею краіны.*

